Задумайцеся...

# Чаму ад нас адвярнуўся цывілізаваны свет?

Нядаўна старшыня камісіі па адукацыі так званага Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сп.Плецюхоў звярнуўся праз газеты да грамадскасці з заклікам прыняць удзел у абмеркаванні шляхоў рэформы школы, якая ўжо пачала ажыццяўляцца Міністэрствам адукацыі. Цікава атрымоўваецца, ці не праўда? Працэс, як казаў Гарбачоў, ужо як быццам пайшоў, а нас запрашаюць да сур'ёзнай размовы. Што ж, прабачым за такое спазненне — праблема надзвычай важная, і вырашэнне яе аддаваць на водкуп адным чыноўнікам нельга.

Бясспрэчны факт: задача школы — падрыхтаваць культурных, адукаваных, кваліфікаваных грамадзян. Грамадзян, якія аддана любяць і ганарацца сваёй краінай, яе гісторыяй, культурай, мовай. Якія мараць прысвяціць ёй усе свае таленты і веды, аддаць дзеля яе росквіту ўсе свае намаганні, а калі спатрэбіцца, то і самое жыццё. Якія будуць стоячы спяваць нацыянальны гімн са слязамі на вачах пры пад'ёме беларускага сцяга — ці то ў дзіцячым летніку пад Слуцкам, ці то на Алімпійскіх гульнях за акіянам.

Такая задача пад сілу толькі школе глыбока нацыянальнай і па форме і па змесце. Вось чаму так востра стаіць пытанне наконт мовы навучання. Два гады таму, пацяху ўзбіваючыся на цывілізаваны шлях развіцця, наша краіна навучала 70% вучняў пачатковай школы ў беларускіх класах. Сёння — менш за 30%. Гэта значыць, што мы нашаму новаму пакаленню далі першы грамадзянскі ўрок. Дзіцяці, якое ўжо 2—4 гады вучылася па-беларуску, раптам далі рускія падручнікі, а любімая настаўніца нечакана загаварыла па-руску. Пройдуць гады, і гэты ўрок дасць свой разбуральны плён. Сённяшнія пачаткоўцы назаўжды засвояць, што ўсё беларускае — і мова, і культура, і народ, і дзяржава — другога гатунку, што ўсё гэта нявартае не толькі любві, а нават павагі. Прысвяціць ім свой талент і высакародныя памкненні, аддаць за іх жыццё? Не дачакаецеся.

А дзяржаву, якую не паважаюць свае ж грамадзяне, не будзе паважаць ніхто ў свеце, і як самастойная дзяржава яна доўга не праіснуе. Што ж вы, дзяржаўныя асобы, чыноўнікі ды дэпутаты, робіце? Ну, людзі гэтага не разумеюць і не думаюць пра гэта, ім бы сёння выжыць, узбіцца на якую капейку, ды і што іншага ад іх чакаць, калі ў 30—50-я гады такі ж урок "грамадзянства" атрымалі і яны, калі на іх дзіцячых вачах гвалтавалі беларускую школу. Ці выхавана ў іх пачуццё нацыянальнай годнасці, без якога, дарэчы, няма і чалавечай годнасці? Ці не таму ад нас адвярнуўся ўвесь цывілізаваны свет, а на еўрапейскую тусоўку ў Страсбург Жак Шырак, дарэчы, асабіста знаёмы з Лукашэнкам, не запрасіў толькі Беларусь? Вось і шукаем мы, з кім бы пасябраваць у Кітаі ці Індыі, на Кубе ці ў Паўночнай Карэі эпохі "Чуч хэ". Ці не таму заказныя прафесары з экрана "нацыянальнага" тэлебачання разважаюць, што не існуе беларускай ці ўкраінскай нацыі (паспрабуй сказаць гэта на Украіне!), а ёсць толькі адзіны славянскі народ, і таму можна спакойна далучацца да Расіі хоць шасцю абласцямі, хоць адным Паўночна-Заходнім краем. Народ-самагубца не абураецца, маўчыць. Рабі з ім што хочаш. Прагаласуюць, як трэба, па любым пытанні не задумваючыся.

Меў рацыю граф Мураўёў, карнік беларускага нацыянальнага руху, калі пасля пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага сказаў: "Што на гэтай зямлі недарабіў рускі штык, даробіць руская школа". Ай, малайчына, ай да палітык! На 100 год наперад бачыў, што тут трэба рабіць Расійскай, а потым савецкай імперыі. Вынік бліскучы, бо ўжо 2—3 пакаленні беларусаў проста генетычна (ці можна іх ужо называць беларусамі?) нараджаюцца без пачуцця нацыянальнай годнасці, без той асновы, без таго адзінага, што можа аб'яднаць самае расслоенае і палярызаванае грамадства вакол нацыянальнай стваральнай ідэі і забяспечыць грамадзянскі мір. А адсутнасць грамадзянскага міру — гэта грамадзянская вайна.

Я часта задумваўся, ну як гэта можна не разумець, што будучыня нашай краіны, будучыня нашага народа толькі ў беларускай школе? Толькі новае пакаленне, выхаванае ў духу павагі да беларускай гісторыі, у любові да матчынай (ужо, можа, і прабабчынай) мовы і непаўторнай культуры Беларусі можа па-сапраўднаму стацца патрыятычным насуперак нават існаванню БПСМ, у якога толькі назва беларуская. Але мы сёння няроўна раздзялілі новае пакаленне на рускія школы і беларускія класы, каб праз 10—15 год зноў не мець у нашай краіне (а ці ўжо будзе яна тады) грамадзянскага міру, каб зноў спрацавала гэта мураўёўская міна запаволенага дзеяння і беларусы на роднай зямлі адстойвалі перад міліцэйскімі дубінкамі свае правы "людзьмі звацца" і вучыць дзяцей у беларускай школе і ва універсітэце (дзе ён, беларускі універсітэт?).

Чаму большасць "несвядомых беларусаў" не ў стане зразумець гэтых разважанняў і ў лепшым выпадку зводзяць усе спрэчкі аб беларусізацыі да каўбасы, а ў горшым — варожа абвінавачваюць у нацыяналізме, не ведаючы, што гэта такое і што ва ўсім свеце гэта з'ява (нацыяналізм) успрымаецца як прыярытэт у першую чаргу сваіх нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў, тое, што раней у нас называлася патрыятызмам? І мне здаецца, што я знайшоў адказ на гэта пытанне. Адказ прыйшоў да мяне раптоўна, калі я выпадкова назіраў па тэлебачанні, як з асалодай шоу-мэн Ярмольнік выстаўляў на смех невінаватых людзей, якія нават і не думалі, што над імі робіцца вытанчаны здзек, і бадзёра спявалі пад пласцінку бязбожна фальшывыя песні. У мяне склалася ўражанне, што Ярмольнік, каб павесяліць публіку, спецыяльна выбірае для гэтага конкурсу людзей, якія зусім не маюць музычнага слыху і проста не ў стане правільна ўзяць ніводнай ноты. Даволі многа людзей не ў стане пачуць свой фальш, ім прыродай гэтага не дадзена. А скажаш ім, што спяваць яны не ўмеюць і станеш першым ворагам. Так і чалавек, які не мае пачуцця годнасці — і чалавечай, і нацыянальнай, проста не ў стане зразумець боль свядомага беларуса і сярод іх, свядомых, будзе шукаць ворагаў, іх будзе вінаваціць ва ўсіх бедах свайго жыцця, жабрацкага і рабскага. Так гэта сёння і адбываецца. У адной краіне жывуць два народы як з розных планет і варожая большасць стараецца знішчыць нават маладыя парасткі беларускасці, інстынктыўна адчуваючы пагрозу з боку беларускай школы. Любы чалавек, які гаворыць па-беларуску — вораг, радыкал, апазіцыянер. За апошнія тры гады раскаталі апазіцыю каткам. Каб дагадзіць рэжыму, нават на з'ездзе настаўнікаў не прагучала беларускае слова. Але зеляніна прабіваецца і праз асфальт. І новае пакаленне зноў паставіць пытанне беларусізацыі краіны.

Хочацца правесці яшчэ адну паралель і параўнаць, услед за прэзідэнтам, Беларусь з гітлераўскай Германіяй. Гітлеру тады ўдалося, скарыстаўшы цяжкасці жыцця людзей, умела згуляўшы на самых нізменных інстынктах, раскатаць каткам тое, што мы зараз называем агульначалавечымі каштоўнасцямі. Яны гарэлі на кастрах разам з кнігамі Гётэ і Талстога, а розумам людзей апанавала расісцкая ідэалогія — арыец самы моцны, а моцнаму ўсё можна. Забівай, рабуй, гвалтуй, палі, рэж, у іншых забяры тое, чаго табе не стае. Цэлы народ захварэў і дружна падтрымліваў Гітлера на ўсіх рэферэндумах, якія ён таксама любіў праводзіць. 90 працэнтаў — "за". Усё, што рабіў Гітлер, — воля яго народа. А тыя 10 працэнтаў, хто не паверыў "псіхаватаму кашпіроўскаму", хто быў сумленнем нямецкай нацыі, вымушаны былі шукаць сабе "іншую радзіму" — хто за мяжой, як Эйнштэйн ці Томас Ман, а хто ў Бухенвальдах і Дахау. Праз гады нямецкі народ жахнуўся, усвядоміўшы тое, што нарабіў, і зараз у другім пакаленні нясе пакаянне.

Понцій Пілат казніў Хрыста, правёўшы своеасаблівы "рэферэндум". І натоўп крычаў: "Распні яго, распні!" Так што самыя жахлівыя злачынствы гісторыі былі "асвянцоны" воляй народа.

Пройдзе час, усвядоміць і наш народ-самазабойца, што ён нарабіў на лукашэнкаўскіх рэферэндумах. Пазбавіў сябе не толькі мовы і нацыянальных сімвалаў, не толькі дэмакратычных правоў і свабод, а страціў годнасць, адметнасць і ў перспектыве — незалежнасць. І нашы суседзі па Еўропе гэта добра зразумелі, таму і адвярнуліся ад нас, як ад чалавека, ад якога дрэнна пахне.

Ілжывыя "інтэгратары" тлумяць людзям галовы, разважаючы аб працэсе еўрапейскай інтэграцыі. Яны там, у Еўропе, маўляў, нават граніцы зліквідавалі і нам трэба з Расіяй аб'яднацца. Але нават сляпы не можа не бачыць, што разам з працэсам сапраўды аб'ектыўнай эканамічнай і палітычнай інтэграцыі раўнапраўных цывілізаваных краін з аднолькавымі дэмакратычнымі стандартамі пабудовы дзяржаўнай улады і грамадзянскіх правоў і свабод ні адна з краін не паступаецца сваёй нацыянальнай адметнасцю, усё больш увагі надае развіццю сваёй самабытнасці, бачачы ў ёй адзіную крыніцу патрыятызму, а значыць, і свайго працвітання. Вазьміце хаця б Літву, Украіну ды ўсіх тых, хто яшчэ шэсць год таму быў з намі ў адной лодцы. Хто з іх зрабіў замежную мову дзяржаўнай і вырошчвае ў "чужых" школах "пятую калону"? "Ці мы разумнейшыя за ўсіх?" Вялікі Хэмінгуэй, апісваючы грамадзянскую вайну ў Іспаніі, яскрава паказаў: хаця франкісты штурмавалі Мадрыд чатырма калонамі, рэспубліканцаў згубіла пятая калона, якая была ўнутры рэспублікі, у самым Мадрыдзе. Сёння такая "пятая калона" кіруе ў Беларусі.

У гісторыі было ўжо ўсё, у тым ліку і адраджэнне краін, якія стагоддзямі не мелі сваёй дзяржаўнасці і згубілі сваю мову. З яе адраджэння пачала пасля першай сусветнай вайны атрымаўшая незалежнасць амаль цалкам нямецкамоўная Чэхія. Пасля другой сусветнай вайны ўзнікла дзяржава Нарвегія, якая некалі таксама згубіла сваю мову і размаўляла па-шведску. І яе адраджэнне пачалося з адраджэння мовы. Я ўжо не кажу пра Ізраіль, мова якога амаль 2000 год існавала толькі ў Талмудзе. Гэтыя і многія іншыя краіны пачыналі свой самастойны шлях з нацыянальнай школы і мовы, затое цяпер маюць досыць каўбасы.

І менавіта ва ўладзе, сярод дэпутатаў і чыноўнікаў, павінны быць людзі, якія гэта разумеюць і якія вывядуць краіну на цывілізаваны шлях, з якога мы часова збочылі ўслед за прэзідэнтам. Ён так і сказаў, что не павядзе нас за цывілізаваным светам. І наконт пошукаў іншай радзімы для іншадумцаў — гэта таксама яго словы. Што ж, прэзідэнты прыходзяць і ўходзяць, а Беларусь, спадзяюся, застанецца і адродзіцца. І пачне гэты цяжкі шлях доўгага і пакутлівага аздараўлення з беларускай школы, са стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, каб, змяніўшы пакаленне, заняць нарэшце дастойнае месца члена сям'і еўрапейскіх народаў, якога паважаюць, бо ён сам пачаў сябе паважаць і ўсведамляць. А пакуль што спяваюць ва ўладзе людзі без слыху і голасу і не чуюць свайго фальшу.

Хацеў паразважаць спакойна — не атрымалася. Надта відавочна і непрыхавана, нахабна вядзе сябе ўлада з беларусамі, якія хочуць імі быць. Уявіце, ніводнага прамоўцы па-беларуску на з'ездзе настаўнікаў, ніводнага запрошанага ад Таварыства беларускай школы для абмеркавання рэформы школы ў Беларусі! Што ж, спадар Плецюхоў, прашу лічыць гэты артыкул заяўкай Таварыства беларускай школы на ўдзел у працы вашай камісіі. Увесь інтэлектуальны патэнцыял і вопыт нашай арганізацыі (а яны немалыя) — да вашых паслуг. Запрашайце. Можа, тады ў выніку работы вашай камісіі прагучыць хоць некалькі чыстых нот.

**Аляксандр СЯДЗЯКА,**
**віцэ-прэзідэнт Таварыства беларускай школы.**

## Курс беларускага рубля ў адносінах да амерыканскага долара на пазабіржавым рынку куплі-продажу наяўнай валюты перавысіў афіцыйны прагнозны паказчык канца 1998 года

Сітуацыя на валютным рынку Беларусі па-ранейшаму застаецца вельмі складанай. Нягледзячы на спробы ўрада і Нацыянальнага банка з дапамогай адміністрацыйных метадаў пазбавіцца "множнасці" курсаў беларускага рубля ў адносінах да амерыканскага долара, "чорны" рынак куплі-продажу валюты працягвае існаваць.

Увесь мінулы тыдзень на пазабіржавым рынку куплі-продажу працягвалася ўстойлівае падзенне беларускага рубля. У выніку яго абменны курс у адносінах да амерыканскага долара дасягнуў 37 тысяч беларускіх рублёў за долар і перавысіў афіцыйны прагнозны паказчык снежня 1998 года — як вядома, згодна з праектам прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1998 год, да канца наступнага года афіцыйны курс беларускага рубля не павінен перавышаць 36.600 рублёў за амерыканскі долар.

Некаторыя назіральнікі звязваюць падзенне беларускага рубля на біржавым рынку з яго няўстойлівасцю на знешніх валютных рынках, найперш — на расійскім. У гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН адказны чыноўнік Нацыянальнага банка, які пажадаў застацца неназваным, не стаў напрамую звязваць апошнія тэндэнцыі на валютным рынку краіны з дзейнасцю буйных расійскіх банкаў, якія "ўзнялі" у Расіі курс беларускага рубля да 40 тысяч рублёў за долар. У той жа час растлумачыць нейкія канкрэтныя прычыны падзення беларускага рубля на пазабіржавым рынку чыноўнік галоўнага банка краіны не змог.

**Ягор ЗВОННІКАЎ.**

## Дырэктар Інстытута тэхнічнай кібернетыкі В.Танаеў названы "Чалавекам года — 1997"

Біяграфічны інстытут ЗША прысвоіў ганаровае званне "Чалавек года — 1997" дырэктару Інстытута тэхнічнай кібернетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, члену-карэспандэнту акадэміі Вячаславу Танаеву. В.С.Танаеў нарадзіўся ў 1940 годзе ў Цвярской вобласці (Расія). Скончыў Крымскі педагагічны інстытут і аспірантуру пры Інстытуце цепла- і масаабмену НАНБ. З 1965 года працаваў у Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі галоўным інжынерам, загадчыкам лабараторыі, дырэктарам. Прафесар Танаеў — спецыяліст у галіне матэматычнай кібернетыкі і інфарматыкі, тэорыі прыняцця рашэнняў, распрацоўкі тэорыі і метадаў аптымізацыі, іх прымянення ў аўтаматызаваных сістэмах праектавання, планавання і кіравання. Ім падрыхтавана і выдадзена на рускай і англійскай мовах двухтомная манаграфія па тэорыі раскладаў. Апошнім часам Танаеў кіруе буйным праектам у галіне каляндарнага планавання і кіравання, які выконваецца сумесна з вучонымі Англіі, Германіі і Нідэрландаў. Ён сапраўдны член Таварыства інжынераў-электрыкаў (IEE, Лондан), акадэмік некалькіх міжнародных акадэмій навук, прэзідэнт Беларускага таварыства даследавання аперацыі.

З 1996 года В.Танаеў — генеральны дырэктар навукова-доследнага аб'яднання "Кібернетыка" у складзе НАНБ, дзе распрацоўваюцца рэспубліканская камп'ютэрная сетка, праблемы аховы інфармацыі, камп'ютэрных тэхналогій праектавання і кіравання, стварэння геаінфармацыйных і інтэлектуальных сістэм, комплексаў, прыбораў, у тым ліку для экалогіі, медыцыны, распазнавання і сінтэзу гутаркі, тэксту і выяваў — г.зн. прыярытэтныя накірункі новых і высокіх тэхналогій.

**Мікалай САВІК.**

## Міжнародны салон "Сучасны офіс і банк-97" адкрыўся сёння ў Мінску

У выставачным павільёне "Мінскэкспа" адкрыўся VI Міжнародны салон "Сучасны офіс і банк-97", арганізаваны выставачным таварыствам "Экспафорум" і Фондам інфарматызацыі пры інфармацыйнай падтрымцы "Белорусской газеты".

У рамках салона праводзяцца дзве спецыялізаваныя выставы: сістэмнага і праграмнага забеспячэння "Софт-Мінск" і "Бяспека. Ахова. Выратаванне". Удзел у выставе прымаюць 74 прадпрыемствы з Беларусі, Літвы, Іспаніі і Расіі. У экспазіцыі салона прадстаўлена арганізацыйная і вылічальная тэхніка, аўтаматызаваныя сістэмы апрацоўкі інфармацыі, сучасныя тэлекамунікацыі і сродкі сувязі, мэбля для абсталявання офісаў і банкаў, канцылярскія тавары, навукова-тэхнічная, вучэбна-метадычная, даведачная і дзелавая літаратура, паслугі банкаў, страхавых, лізінгавых і кансалтынгавых кампаній і рэкламных агенцтваў. Арганізатары салона пастараліся прадставіць у яго рамках увесь спектр прапаноў вядучых фірмаў для комплекснага абсталявання офісаў — ад мэблі і канцтавараў да інтэграваных інфармацыйных і ахоўных сістэм. У якасці апошніх прапануюцца электронныя сістэмы бяспекі, сістэмы тэле- і відэаназірання, ахоўна-пажарная сігналізацыя, сейфы і кодавыя замкі, абарона інфармацыйных сетак, электронныя сродкі абароны і сістэмы асабістай бяспекі.

Акрамя агляду экспазіцыі наведвальнікі выставы змогуць прыняць удзел у прэзентацыях і навукова-практычных семінарах, якія традыцыйна праводзяцца ў рамках салона. Акрамя гэтага, для наведвальнікаў гэтага салона прыгатаваны сюрпрыз: латарэя, якую правядзе кампанія IMC computers, з прынтэрам Lexmark у якасці галоўнага прыза.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

## У памяць аб выдатных акцёрах

Мемарыяльныя дошкі будуць устаноўлены на дамах, дзе жылі акцёры Купалаўскага тэатра, народныя артысты СССР Глеб Глебаў і Галіна Макарава. Такое рашэнне прыняў Мінскі гарвыканкам, выконваючы распараджэнне ўрада аб увекавечанні памяці выдатных прадстаўнікоў беларускага сцэнічнага мастацтва.

Як стала вядома карэспандэнту БелТА, 27 снежня гэтага года, у дзень нараджэння Галіны Макаравай, мемарыяльная дошка з'явіцца на доме нумар 36 па праспекце Скарыны, дзе жыла актрыса. А да 99-годдзя з дня нараджэння акцёра Глеба Глебава 5 мая наступнага года будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць аб ім на доме нумар 4 па вуліцы Леніна ў Мінску.

**БелТА.**

## УКАЗ
## ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
### №544
### Аб назначэнні Л.Д.Маскаленкі, У.Ц.Чамрукова суддзямі Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь і А.С.Суслы суддзёй Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

Кіруючыся пунктам 9 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, п а с т а н а ў л я ю:

Назначыць:

Маскаленку Леаніда Дзмітрыевіча і Чамрукова Уладзіміра Цімафеевіча суддзямі Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы іх ад пасад суддзяў адпаведна Мінскага абласнога і Мінскага гарадскога судоў, з наступным узгадненнем іх назначэння з Саветам рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь;

Суслу Аркадзя Сідаравіча суддзёй Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады суддзі Мінскага абласнога суда, з наступным узгадненнем яго назначэння з Саветам рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.Лукашэнка.**

27 кастрычніка 1997 г.
г.Мінск.

Спорт

## Сусветнае "серабро" — ў беларускіх гімнастак

На радаснай і сумнай нотах закончыўся для беларускіх спартсменак чэмпіянат свету па мастацкай гімнастыцы, які праходзіў у Берліне. Цудоўна, што нашы дзяўчаты заваявалі ў камандных спаборніцтвах сярэбраныя ўзнагароды, уступіўшы расіянкам і апярэдзіўшы ўкраінак. Гэта нават перасягнула спадзяванні галоўнага трэнера беларускай зборнай Ірыны Ляпарскай, якая прагназіравала для сваіх падапечных трэцяе прызавое месца. Але тады яна яшчэ не ведала, якая непрыемнасць можа напаткаць каманду. А здарылася тое, чаго больш за ўсё баяліся.

Цудоўна пачаўшы кваліфікацыйныя спаборніцтвы, па выніках якіх адбіраліся восем лепшых каманд, трыццаць мнагаборак і восем фіналістак у асобных практыкаваннях, беларускія спартсменкі пасля двух практыкаванняў засталіся без свайго лідэра Таццяны Агрызка. На размінцы перад кампазіцыяй са скакалкай яна атрымала сур'ёзную траўму і вымушана была спыніць барацьбу. Вось тады і пачаліся трывогі. Трэнерскаму складу тэрмінова прыйшлося ўносіць карэктывы ў праграму выступленняў. І на гонар нашым дзяўчатам — Яўгеніі Паўлінай, Валерыі Ваткінай і самай маладой Юліі Раскінай — яны выстаялі.

У мнагаборстве перамагла ўкраінка Алена Вітрычэнка, другой і трэцяй былі расіянкі Наталля Ліпкоўская і Яніна Батыршына. Яны ж разыгралі медалі і ў асобных практыкаваннях.

## Бронза — як суцяшэнне

Не абцяжараныя ўзнагародамі вярнуліся беларускія майстры рынга з Венгрыі, дзе праходзіў сусветны чэмпіянат па боксу. Аднаму толькі Сяргею Ляховічу, які выступаў у суперцяжкай вагавой катэгорыі, удалося заваяваць бронзавую ўзнагароду. Шлях у фінал яму перакрыў Георгій Кандзелані з Грузіі.

Няўдачнае выступленне нашых спартсменаў, калі сем з дзевяці выбылі з барацьбы ўжо ў першым крузе спаборніцтваў, спецыялісты тлумачаць вельмі моцным складам удзельнікаў гэтага чэмпіянату, сярод якіх было 16 алімпійскіх чэмпіёнаў, а таксама шмат пераможцаў сусветных і еўрапейскіх першынстваў. Не апошнюю ролю адыгралі і новыя правілы, калі паядынак складаецца не з трох, а з пяці раўндаў, да чаго нашы баксёры, відаць, яшчэ не прыстасаваліся.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БелТА.**

## Прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў сцвярджае, што ў свеце праходзіць мода на свабодныя эканамічныя зоны

Прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін лічыць, што, калі зацягнуць працэс адкрыцця свабодных эканамічных зон на тэрыторыі Беларусі, рэспубліка можа апынуцца ў сітуацыі, калі ў свеце перамяшчэнне капіталу ў СЭЗ будзе "пад забаронай". Ужо зараз, па словах У.Карагіна, у шэрагу краін мае месца палітыка "непрыняцця" афшорных зон, якія ўсё часцей называюць "недружалюбнымі структурамі" нацыянальных эканомік і своеасаблівым "эканамічным наркотыкам". Апрача таго, сцвярджае лідэр БСП, у свеце ўжо ёсць вопыт санкцый эканамічнага характару ў дачыненні да тавараў, выраблених на тэрыторыях СЭЗ, напрыклад, абкладанне яго дадатковым падаткам.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Фестываль польскай песні завяршыўся ў Брэсце

У Брэсце завяршыўся першы абласны фестываль польскай песні "Брэсцкая восень з польскай песняй". Звыш 200 выканаўцаў і самадзейных калектываў вобласці ўзялі ўдзел у гэтым культурным мерапрыемстве. У якасці ганаровых гасцей на свяце прысутнічалі пасол Польшчы ў Беларусі Эва Спыхальска, ваявода Бяла-Падляскі Тадэвуш Коршань, польскі консул у Брэсце Томаш Кліманскі, а таксама прадстаўнікі мясцовых уладаў.

Па словах кіраўніка абласной арганізацыі Таварыства палякаў Антона Філіпчука, галоўнай мэтай фестывалю было аб'яднанне прыхільнікаў польскага мастацтва і яго прапаганда на тэрыторыі Брэсцкай вобласці. Фестываль, адзначыў А.Філіпчук, удаўся і абяцае быць штогадовым. Кожны з удзельнікаў атрымаў дыпломы, а лепшыя з лепшых — узнагароду ад спонсараў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ,**
**БелаПАН.**

## Творчая вечарына паэта Осенева прайшла ў Мінску

Незвычайную аўдыторыю прыцягнула творчая вечарына маскоўскага паэта Осенева, якая прайшла ў Мінскім доме афіцэраў вечарам у нядзелю. Сярод гледачоў можна было бачыць старшыню ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоля Малафеева, кіраўніка КПБ Віктара Чыкіна, шматлікіх ветэранаў партыі. Сапраўднае прозвішча паэта — Анатоль Іванавіч Лук'янаў. Як вядома, менавіта ён быў апошнім старшынёй Вярхоўнага Савета СССР, а цяпер з'яўляецца дэпутатам Дзярждумы Расіі, адным з кіраўнікоў парламенцкай фракцыі камуністаў.

Анатоль Лук'янаў чытаў вершы, прысвечаныя Кампартыі, Вялікаму Кастрычніку, СССР... Асобным фрагментам прагучалі вершы, напісаныя Анатолем Лук'янавым у турме "Матроская цішыня".

**Уладзімір ГЛОД.**

## У Прагу, Скарыне пакланіцца

"Беларуская зорка" — так названа свята, прысвечанае 480-годдзю выдання Францыскам Скарынам у Празе першай кнігі Біблії — "Псалтыры". Арганізаванае па ініцыятыве Пасольства Беларусі ў Чэшскай Рэспубліцы, падтрыманае Саветам Міністраў, МЗС, Дзяржкамдрукам і Міністэрствам культуры нашай краіны, яно пройдзе 30—31 кастрычніка ў самой чэшскай сталіцы і ў некалькіх гарадах Паўднёвай Чэхіі.

У складзе афіцыйнай дэлегацыі нашай рэспублікі, якая адпраўляецца ў Прагу 28 кастрычніка, — кнігавыдаўцы, дзеячы культуры, вучоныя, літаратары, журналісты, прадстаўнікі міністэрстваў і грамадскіх арганізацый. Акрамя сустрэч у пражскай мэрыі і з кіраўніцтвам некалькіх гарадоў краіны, чакаецца адкрыццё ў выставачнай зале храма святых Кірылы і Мяфодзія экспазіцыі "Беларусь: духоўная спадчына". У яе ўвайшлі прадукцыя сучасных беларускіх выдавецтваў і работы вядомых нацыянальных мастакоў.

А тэатралізаванае прадстаўленне "Беларуская зорка", удзельнікамі якога стануць артысты студыі "Сябры" і танцавальнага ансамбля "Харошкі", пройдзе ў Пражскім градзе і на цэнтральнай плошчы горада. У тых месцах, дзе калісьці працаваў над сваімі кнігамі геній беларускага адраджэння і дзе роўна год таму намаганнямі кіраўніцтва Беларусі і Чэшскай Рэспублікі пры садзейнічанні многіх дзяржаўных і недзяржаўных структур Чэхіі былі ўстаноўлены памятная дошка ў гонар вялікага гуманіста і бронзавая скульптура Францыска Скарыны.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.**

За чашечкой кофе с Мариной КОКТЫШ

*Элеонора ЕЗЕРСКАЯ:*

# "Родившись здесь, лично я страной не ошиблась..."

*Истории, которая была описана в "Народной воле" №179(301) под заголовком "О правилах хорошего тона и самой Элеоноре" и которая, к слову, попала на ее страницы, когда главный редактор был в командировке, по словам бессменной ведущей "Музыкального салона", не было и в помине. Элеонора Аркадьевна уверяет, что на людях всегда ведет себя более чем пристойно. Дома, конечно, иной раз может позволить себе накричать на друга своего сердца Витали Жукоффа или ни за что обидеть любимого кота Марчелло (с кем не бывает?). Как говорится, эмоции есть эмоции... Но в обществе посторонних или малознакомых людей Элеонора образ держит. Несмотря ни на что. Поэтому грубо обозвать молодых людей, стоящих на лестничной площадке, столь изысканная дама, по ее словам, никак не могла. Интересно, что буквально сразу после выхода заметки в свет у Езерской знакомые (кто с сочувствием, а кто с почти нескрываемым удовлетворением) стали наперебой интересоваться: "Что это, Элеонора, про Вас там написали?" Примадонна белорусского телевидения, естественно, "гнусным поклепам на любимую газету" вначале не поверила. Подумала, что "Народную волю" перепутали с "Народной газетой". Но, как говорится, что написано пером, не вырубишь топором...*

*Кто-то посоветовал ей смолчать и не обратить внимания... Но, как говорит сама Езерская, ее имя слишком на слуху, а жизнь — немножко на виду. Посему она, предварительно проконсультировавшись со своими знакомыми юристами, подготовила иск в суд на "Народную волю" на сумму 500 миллионов белорусских рублей...*

— Парадоксально, но после этой заметки я поняла, как ужасно, когда про кого-то пишут гадости. И для себя раз и навсегда уяснила: если написанное на самом деле ложь и пасквиль, то нужно давать сдачи. Я сама не люблю врать. Посему считаю: правду следует всегда говорить людям в глаза, нежели за спиной. К примеру, не так давно одна из коллег стала меня учить, как правильно делать "Салон". Я, несмотря на то, что эта дама — моя начальница, ответила: "Если бы мои программы были похожи на Ваши, я бы просто удавилась..."

Собственно, я уже давно стала замечать за собой черты Миледи — никому не прощаю обид. И, к сожалению, всегда о них помню. Говорят, если ты дожил до определенного возраста и у тебя нет ни друзей, ни врагов, то твоя жизнь прошла зря. У меня очень много друзей, но и недоброжелателей, как выяснилось, хватает...

***Одним словом, сегодня кофе я пью с хозяйкой популярного "Музыкального салона" Элеонорой Езерской. И совсем, смею заверить, не во имя спасения первой ежедневной независимой газеты от постыдного разорения. Постоянные читатели "Народной воли" наверняка припомнят не один материал на страницах нашей газеты о жизни Элеоноры. Надеемся, что и эта беседа — не последняя: интеллекта, юмора и фантазии у Элеоноры Аркадьевны, согласитесь, не занимать. И с ней всегда есть о чем поговорить.***

**— Элеонора Аркадьевна, значит, "Езерская на людях" и "Езерская дома" — две разные женщины?**

— Если дома я иногда могу "расслабиться" (о, сколько посуды я перебила, срывая гнев на своих любимых!), то на людях, к сожалению, такой роскоши позволить себе не могу. Я ведь Элеонора Езерская — Женщина с экрана. И обязана помнить это всегда. А вообще, па натуре я человек достаточно открытый и доброжелательный. Хотя раньше, честно говоря, была немного добрее. Жизнь все-таки ожесточает...

**— Значит, Вы — мстительный человек?**

— Месть — плохое слово. Просто я никогда не прощаю обид.

**— Вы думаете, это помогает оставаться самим собой?**

— Я убеждена, что быть самим собой — самое сложное, что есть в жизни. И человек, с моей точки зрения, только тогда имеет право называться Человеком, когда он в максимальном количестве экстремальных ситуаций следует той линии поведения, которая наиболее соответствует его кодексу о чести и благородстве. Наверное, потому я жутко боюсь лицемеров и лизоблюдов — их всегда стараюсь обходить, как общественный туалет... Есть у меня еще одна слабость: не выношу недалеких людей. Я давно для себя поняла: когда долго общаюсь с глупыми людьми, сама немножко глупею...

**— А Вам не кажется, что теперь у нас в стране просто невозможно не тупеть? Может быть, чтобы сохранить свое лицо, нужно уехать за кордон...**

— Когда я была молодой и красивой, у меня несколько раз была возможность выйти замуж и уехать за границу. Честно говоря, сегодня даже начинаю сомневаться: а правильно ли поступила, не уехав? Во всяком случае, я точно знаю, что там бы не потерялась. И только бы женой не была. Обязательно бы имела свое дело. Но я всегда считала слово "эмигрант" бранным. Помню, как в Мюнхене мои друзья-эмигранты заискивали перед самым последним клерком. Потому что он *Н а н и м а т е л ь*, господин *В е р ш и т е л ь  с у д е б.* И когда в рождественский вечер в доме бывших белорусов ни разу не зазвонил телефон, я поняла: за все надо платить...

Конечно, я люблю ходить по чистым незаплеванным тротуарам. Мне больно видеть на улице несчастных брошенных животных. Противно заходить в свой постоянно загаженный подъезд. Неприятно видеть глупость и инертность многих моих сограждан. Но жить все равно нужно на родине. А за границу можно съездить погулять, посмотреть или прикупить что-то. И Езерская никогда не скажет: "Рождаясь на свет, мы ошиблись страной". Родившись здесь, лично я страной не ошиблась.

**— Вы вообще часто бываете за границей?**

— Я была несколько раз во Франции, в Германии, Голландии и других европейских странах. Грущу, что никогда не была в Италии. Хотя убеждена: человек моей профессии, рассказывающий об итальянском искусстве, в частности — о музыке Россини и Верди, просто обязан увидеть ту страну и те места, где родились, жили и творили эти великие музыканты. Но, к слову, во все заграничные вояжи я ездила только за свой счет. Родная телерадиокомпания, к сожалению, к этому не имела никакого отношения...

**— Но сейчас, когда главным редактором музыкального вещания БТ стал профессиональный композитор, музыкант Олег Елисеенков, наверняка грядут какие-то перемены в лучшую сторону...**

— Хотелось бы. Во всяком случае, мне Елисеенков очень симпатичен — он умный и современный человек. И сразу назовет хотя бы четыре оперы Верди и не скажет, что Римский-Корсаков писал балеты...

**— А почему Элеонора Езерская ведет только "Музыкальный салон"? Талантливые люди, как показывает современная практика, берутся сразу за несколько проектов...**

— Собственно, я сама себя считаю не самой неспособной. Во всяком случае, в отсутствии профессионализма меня сложно упрекнуть. И при том, что я очень хорошо отношусь к руководству телерадиокомпании, некоторые вещи просто не могу понять. Например, у нас на телевидении, согласитесь, есть масса бездарных и непрофессиональных передач. Но им отводят лучшее эфирное время и, как ни странно, дают регулярные повторы. Мой "Салон" выходит раз в месяц продолжительностью сорок минут. Плюс абсолютно несистематические повторы. Возникает, на мой взгляд, вполне закономерный вопрос: зачем при таком обращении вкладывать свою душу во что-то еще? Вообще, я считаю, что редакции музыкальных программ Белорусского телевидения катастрофически не хватает программы, которая бы шла в прямом эфире. Думаю, я бы смогла ее вести.

**— На Белорусском телевидении есть передача "История любви". У Вас не возникала мысль поведать общественности о своей истории любви?**

— В свое время от публичной демонстрации своих личных отношений с кем бы то ни было я категорически отказалась, мотивировав это тем, что история любви у меня не одна. Какую выбрать? Правда, сейчас я уже определилась...

**— Элеонора Аркадьевна, Вам не кажется, что теперь как-то не до любви. Рушится буквально все. И в первую очередь культура, которую больше по инерции называют еще единственным спасением нации...**

— Когда гибнет культура, гибнет все. Вообще, я часто думаю о том, какие странные вещи происходят в Беларуси. Например, когда откровенно плохо играет оркестр, все аплодируют и говорят, что это восхитительно. У нас принято ругать эстраду. Согласна, она ужасна, но посмотрите, что делается сегодня с нашими симфоническими оркестрами. О чем можно вести речь, когда оркестр (не буду называть какой), выходя на сцену филармонии, не может без жуткой фальши сыграть вступление к арии Ленского? Музыканты из оркестров сегодня разбегаются...

**— Наши музыканты бегут за границу не от хорошей жизни: люди работают фактически за бесплатно. Потому что на сегодняшний день главным и единственным спонсором культуры остается государство...**

— ...И богатым людям, которых, к слову, давят теперь, как блох, даже в голову не приходит помочь своей белорусской культуре. В принципе, один замечательный человек все-таки успел многое сделать для национальной культуры. Сегодня над ним идет суд. У него невозвращенные кредиты, и ему придется провести в тюрьме два года. Валерий Мацулевич по натуре был меценатом. На свои средства он поставил пять или шесть фильмов (один из которых, между прочим, стал призером Каннского кинофестиваля), сделал несколько выставок, организовал роскошный фестиваль женского кино, помог выпустить альбом художнику Кузьмичу и т.д. Я позвонила некоторым представителям нашей культуры, говорю, придите в суд, хоть постойте там, посочувствуйте человеку... В суд пришли Анатолий Ярмоленко и Михаил Финберг... А где другие, кому он помог, когда был богат?..

**— Как Вы думаете, а с чего вообще начинается культура?**

— С семьи. С наличия собственной зубной щетки и с того, что человек с самого детства приучен дважды в день чистить зубы.

*...Элеонора Аркадьевна полагает, что время, когда ее "Салон" будет видеть экран не сорок, а два раза по сорок минут плюс повтор, все же наступит. Посему сейчас она с завидным энтузиазмом занимается записью очередных "Музыкальных салонов". К примеру, недавно записала передачу о трогательных, немного непонятных и где-то вызывающих отношениях Ивана Тургенева и Полины Виардо. В ближайшем будущем Езерская думает пригласить к себе отцов и дочерей, имеющих самое непосредственное отношение к искусству. Гостями "Салона" будут папа и дочь Щемелевы, цимбалисты Леончики, поэт и актриса Легчиловы и певцы Ярмоленки. А к Рождеству Езерская планирует удивить белорусскую (и, надо полагать, не только) общественность праздничным шоу "Элеонора Езерская приглашает..." Если не произойдет никаких глобальных изменений, то программа будет сниматься в столичном цирке и получит эфир в один из рождественских вечеров. Предполагается, что в программе будут принимать участие много известных людей. И, естественно, члены семьи Езерской — Витали Жукофф и кот Марчелло. К слову, не так давно самый раскрученный кот Беларуси покорил съемочную группу талантливого белорусского клипмейкера Владимира Янковского своим примерным поведением и точным выполнением режиссерских задач... Дело в том, что Марчелло снялся в музыкальном клипе московской группы "Белый Орел". Причем блистательно. Вскоре, как надеется Езерская, у телезрителей появится приятная возможность вместо порядком приевшегося ангела-хранителя в лице Игоря Крутого в популярных российских и белорусских музыкальных программах лицезреть ее "рыжего орла"...*

*Ну, а что касается иска Езерской к "Народной воле", то из уважения к ее главному редактору и к самому изданию, которое, кстати, подвел внештатный автор, Элеонора от своей затеи решила отказаться. Дружба дороже всего!..*

